*Не пакідайце ж мовы нашай беларускай, каб не ўмёрлі!*
*Францішак БАГУШЭВІЧ*




# НАША СЛОВА

Штотыднёвая газета (Выходзіць з сакавіка 1990 г.) ◈ 32(140) ◈ 11 жніўня 1993 г. ◈ Кошт — 5 рублёў.

## ПОСТУП ТЫДНЯ



АДБЫЛАСЯ СУСТРЭЧА СТАРШЫНІ ВЯРХОЎНАГА САВЕТА БЕЛАРУСІ СТАНІСЛАВА ШУШКЕВІЧА з прадстаўнікамі Аб'яднанай дэмакратычнай партыі, Беларускай сялянскай партыі, Руху за дэмакратычныя рэформы на Беларусі. Гаворка ішла пра пошукі агульных падыходаў да пытанняў эканамічнай рэформы і развіцця палітычнай сітуацыі ў краіне.

✦✦✦

*ПРЭС-ЦЭНТР БЗВ ПРЫНЯЎ ЗАЯВУ, у якой крытыкуецца пазіцыя Міністэрства абароны ў адносінах да рэзалюцыі па вайсковым пытанні, прынятай Першым з'ездам беларусаў свету. У заяве, у прыватнасці, гаворыцца: «Замест таго, каб прыняць дзейсныя захады па выпрацоўленні становішча ў войску, Міністэрства абароны адкрыта зняважыла гістарычны для беларускага народа форум».*

✦✦✦

*ПАД ГРЫФАМ НАЦЫЯНАЛЬНАГА НАВУКОВА-АСВЕТНАГА ЦЭНТРА ІМЯ Ф. СКАРЫНЫ І МІЖНАРОДНАЙ АСАЦЫЯЦЫІ БЕЛАРУСІСТАЎ выйшлі ў свет два першыя выпускі штогодніка «Беларусіка».*

✦✦✦

ПАСТАНОВАЙ САВЕТА МІНІСТРАЎ РЭСПУБЛІКІ на пасаду першага намесніка міністра замежных спраў Беларусі назначаны Георгій Таразевіч, які добрую частку свайго жыцця аддаў партыйнай і савецкай рабоце. Якую ж ён будзе праводзіць палітыку?

✦✦✦

*ПАСТАНОВАЙ САВЕТА МІНІСТРАЎ Слабадской сярэдняй школе Мядзельскага раёна прысвоена імя паэта-дэмакрата Адама Гурыновіча, а Будслаўскай сярэдняй школе — імя Паўліны Мядзёлкі.*

✦✦✦

ПРЫНЯТА РАШЭННЕ аб адкрыцці ў Рыме, Таронта, Нью-Йорку і Лондане генеральных консульстваў Рэспублікі Беларусь.

✦✦✦

*НА ЧАРГОВЫМ ПАСЯДЖЭННІ САВЕТА СВАБОДНАГА ПРАФСАЮЗА БЕЛАРУСІ РАСПРАЦАВАНЫ І ПРЫНЯТЫ* статут Кангрэса дэмакратычных прафсаюзаў Беларусі, які павінен аб'яднаць на раўнапраўнай аснове СПБ, Беларускі незалежны прафсаюз гарнякоў і іншых работнікаў, прафсаюзы авіядыспетчараў і работнікаў аэрапортаў.

## *Гавораць беларусы свету*

ст. 3.

## «СВАБОДА, СВАБОДА І ЯШЧЭ РАЗ СВАБОДА!»

ст. 4.

*У суполках ТБМ*

### Засталіся без старшыні

Складаная сітуацыя ўзнікла на раённай канферэнцыі Таварыства беларускай мовы — не ўдалося выбраць старшыню раённай суполкі. Ф. А. Палачанін, які да гэтага ўзначальваў раённую суполку і шмат зрабіў для наладжвання работы ўсіх пярвічных арганізацый у раёне, катэгарычна адмовіўся далей узначальваць суполку. Зрабіў ён гэта таму, што нідзе ў афіцыйных арганізацыях ніякай падтрымкі не меў. І ніхто з удзельнікаў канферэнцыі не згадзіўся на гэтую пасаду. Так суполка засталася без кіраўніка. А гэта значыць, што ўсе дасягненні і напрацоўкі суполкі, а яны не малыя, пакрысе знікнуць. Таму трэба тэрміновая дапамога кіраўніцтва ТБМ для выпраўлення гэтага становішча.

І. ФУРСЕВІЧ.

г. Докшыцы.

### Старонка ТБМ у Мастоўскай раённай газеце

Мастоўская раённая газета «Зара над Нёманам» 23 чэрвеня 1993 года змясціла першы выпуск старонкі ТБМ «Альбаросіна». Рыхтуе выпуск Мастоўская раённая рада ТБМ імя Францішка Скарыны. Рэдагуе выпуск старшыня рады спадар Аляксей Сабасцян. Выпуск мяркуецца зрабіць рэгулярным.

* * *

27 чэрвеня ля могілак вёскі Падбараны Мастоўскага раёна адбылося святкаванне 90-годдзя з дня нараджэння і ўшанаванне памяці ў сувязі з 60-годдзем з дня смерці беларускага паэта Міхася Явара. Арганізаваў імпрэзу слынны змагар за беларускае Адраджэнне загадчык музея вёскі Гудзевічы Алесь Белакоз.

* * *

Дзяржаўны герб «Пагоня» заняў сваё пачэснае месца на фасадзе будынка Мастоўскага гарсавета.

Працоўная мова Мастоўскага гарсавета — беларуская.

* * *

Ідэя перайменавання вуліц г. Масты дзеля надання гораду нацыянальнага аблічча атрымала падтрымку большасці дэпутатаў гарсавета. Гарвыканкам папрасіў месяц тэрміну для прапрацоўкі пытання.

Станіслаў СУДНІК.

# Добрае вока бачыць далёка

***14 і 15 ліпеня ў Менску ў Доме літаратара адбылася Міжнародная канферэнцыя краін Балтыйска-Чарнаморскага рэгіёна «Шлях адолення паліўна-энергетычнага крызісу», падрыхтаваная Беларускім Народным Фронтам і Аб'яднанай дэмакратычнай партыяй.***

На канферэнцыю былі запрошаны прадстаўнікі дэмакратычных партый Беларусі, Латвіі, Літвы, Украіны ды эксперты з дзяржаўных структур і розных праектных інстытутаў па профілю канферэнцыі. З Кіева прыехаў С. Іваніцкі, галоўны інжынер «Укргазнафтапраекта», з Рыгі — І. Янсан, генеральны дырэктар «Латвіснафта» ды іншыя спецыялісты.

Удзельнікі абмеркавалі праблему выхаду з энергетычнага крызісу. Галоўнае пытанне, якое разглядалася, — магчымасць пабудовы балтыйска-чарнаморскага нафтавага калектара, які злучыць нафтавыя тэрміналы (так называюцца магутныя збудаванні, што перапампоўваюць нафту з танкераў у нафтаправоды ці наадварот) у партах Балтыйскага і Чорнага мораў. Пакуль што краіны гэтага рэгіёна атрымоўваюць нафту толькі з Расіі, пераважна па нафтаправодзе «Дружба». Але, як вядома, здабыча нафты ў Расіі скарацілася з 600 да 300 мільёнаў тон летась. Паводле меркаванняў расійскіх экспертаў, чакаецца далейшы спад здабычы да 185 мільёнаў тон. І вядома ж, яе ледзь будзе хапаць для ўласных патрэб. А Беларусь, Украіна застануцца без нафты. Прыбалтыйскія краіны ўжо адчулі і шантаж усходняга суседа, калі ў І квартале 1992 года была перапынена падача нафтапрадуктаў. І толькі 8 танкераў бензіну і дызпаліва, атрыманых ад заходніх краін, дапамаглі Латвіі правесці веснавую сяўбу. Не магла не заважаць і яшчэ адна прычына. Калі ёсць магчымасць купляць нафту ад некалькіх вытворцаў, то заўсёды можна выбраць лепшую і больш танную. А з пабудовай балтыйска-чарнаморскага нафтавага калектара можна будзе атрымоўваць нафту, прыкладам, з Нарвегіі праз Балтыйскае мора або з арабскіх краін праз будучы адэскі тэрмінал.

Такім чынам, пабудова гэтага калектара дасць магчымасць займець дадатковую крыніцу паставак нафты, захаваць рабочыя месцы на двух беларускіх нафтаперапрацоўчых заводах і нават атрымаць новыя на будоўлі, выйсці з эканамічнага крызісу і паменшыць эканамічную залежнасць ад расійскай нафты і расійскай палітыкі, якая засноўваецца на гэтай нафце.

Канферэнцыю падрыхтаваў Аргкамітэт на чале з Зянонам Пазьняком. Найбольш актыўна працавалі сябры Беларускага Народнага Фронта «Адраджэнне» і Аб'яднанай дэмакратычнай партыі Беларусі, ад імя якой Станіслаў Гусак выступіў першым з дакладам «Агульныя палажэнні і аргументацыя стварэння балтыйска-чарнаморскага нафтавага калектара». Ён падаў некаторыя звесткі пра кошт нафты, якую Беларусь купляе ў Расіі. Прыкладна за 1 трактар «Беларусь», прададзены Расіі, можна купіць 72 тоны нафты, а за прададзены Кітаю — 110—120 тон. За 1 тону нафты Беларусь аддае Расіі 3 тоны калійных угнаенняў, а на сусветным рынку — 1—2 тоны. А колькі сродкаў і людскіх рэсурсаў уклала і ўклад ва наша рэспубліка ў нафтаздабычу ў Заходняй Сібіры!

*Заканчэнне на с. 2.*

*З ПЕРШАГА ЛІСТАПАДА лайнеры Беларускага вытворчага аб'яднання грамадзянскай авіяцыі будуць лятаць пад сваім нацыянальным сцягам і нацыянальнай сімволікай.*

*У БРЭСЦЕ ПРАДСТАЎНІКІ ЧАТЫРОХ КРАІН — Беларусі, Германіі, Польшчы і Расіі — абмеркавалі пытанні супрацоўніцтва ў галіне энергетыкі. Спецыялісты выказаліся за аб'яднанне энергасістэм гэтых краін.*

*ПРАВЯДЗЕННЕ НАЦЫЯНАЛЬНАГА ДНЯ БЕЛАРУСІ на міжнародным фестывалі «Славянскі базар» каштавала нашаму ўраду 30 мільёнаў рублёў.*

# Добрае вока бачыць далёка

*Заканчэнне. Пачатак на с. 1.*

Спадар Гусак падлічыў мяркуемы кошт калектара. Разам з рэканструкцыяй тэрмінала ў Вентспілсе і будаўніцтвам новага ў Адэсе ён будзе каштаваць 385 мільёнаў долараў. Такія сродкі можа даць спецыяльна створаны рэгіянальны банк развіцця краін Усходняй Еўропы ці міждзяржаўныя транснацыянальныя кампаніі.

Грунтоўна распрацоўваюць свае варыянты БЧНК украінскія сябры. Галоўны інжынер «Укргазнафтапраекта» С. Іваніцкі ў дакладзе «Магчымасці стварэння балтыйска-чарнаморскага нафтавага калектара і яго тэхнічнае абгрунтаванне» азнаёміў прысутных з двума варыянтамі праекта мяркуемай будоўлі. Паводле разлікаў украінскіх спецыялістаў выдаткі будуць значна меншымі, калі выкарыстаць існуючыя ў іх рэспубліцы нафтаправоды.

Спадар Драгунявічус з Летувы выклаў сваё бачанне выхаду з паліўна-энергетычнага крызісу, распавёў пра мяркуемае будаўніцтва тэрмінала ў Клайпедзе і пра прычыны спынення гэтай будоўлі, галоўная з якіх — палітычная.

Праз свае марскія парты Прыбалтыйскія рэспублікі могуць атрымоўваць нафту з краін, якія распрацоўваюць падводныя радовішчы ў Паўночным моры. Існуе праект газаправода вакол Балтыйскага мора або праз Скандынаўскія краіны, або праз Нямеччыну і Польшчу. Апроч таго, ёсць магчымасць прывозіць параўнальна танны звадкаваны газ з Алжыра. Але і Летуве, і Латвіі вельмі выгадна эксплуатаваць БЧНК, бо тады з'явіцца магчымасць купляць нафту і ў арабскіх краінах. Такім чынам, маючы тры крыніцы забеспячэння, можна купляць паліва лепшае і танней.

Назаўтра на прэс-канферэнцыі спадар С. Іваніцкі, адказваючы журналістам, пашкадаваў, што не сабраліся раней: «Каб мы тры ці два гады таму правялі такую канферэнцыю, то сёння ўжо мелі б іншыя крыніцы энергазабеспячэння, бо за два гады можна было б рэалізаваць гэтыя праекты, і мы сёння не так бы адчувалі эканамічны ціск нашага ўсходняга суседа».

А пра тое, што ціск і нават шантаж працягваецца, мы ўсе добра ведаем. Нафтавая мафія з Расіі хоча захапіць нацыянальную ўласнасць беларускага народа — Наваполацкі і Мазырскі нафтаперапрацоўчыя заводы. Спадар Кулік з Наваполацка, які працуе ў сістэме эксплуатацыі нафтаправода, паведаміў, што яму вядомы факты шантажу, што ўлады адмоўна аднесліся нават да гэтай канферэнцыі, забараніўшы некаторым спецыялістам удзельнічаць у ёй. Таму і спадар З. Пазьняк на прэс-канферэныі сказаў, што ў нашай рэспубліцы, калі нават паўстане пытанне існавання незалежнай Беларусі, пытанне жыцця ці смерці, урад абярэ палітычнае вырашэнне паліўна-энергетычнай праблемы, што будзе азначаць супраціўленне і адмову ад фінансавання праекта. За тры гады панавання беларускі ўрад адмовіўся ад шмат якіх выгадных для нашага народа праектаў. Але можна знайсці прыватных інвестараў, перш для распрацоўкі тэхнічна-эканамічнага абгрунтавання праекта, а пасля і самой будоўлі.

На прэс-канферэнцыі шмат гаварылі пра спрыяльныя і неспрыяльныя прагнозы будучага будаўніцтва. Згадвалася і пра тое, што БЧНК ствараецца толькі з-за эканамічнай неабходнасці, што калектар, магчыма, будзе выгадным і Расіі. А што да тэрмінаў будаўніцтва, то яго можна паскорыць, выкарыстоўваючы вопыт нафтаздабываючых краін. Узважвалася магчымасць пераналадкі нафтавых тэрміналаў, якія працавалі выключна на экспарт нафты. Цяпер жа іх трэба будзе перарабляць на прыём нафты з танкераў. Дарэчы, выказвалася ўдзельнікамі канферэнцыі меркаванне, што часова замест тэрмінала можна выкарыстоўваць старыя спісаныя танкеры.

Удзельнікі канферэнцыі палічылі мэтазгоднымі рэгулярныя сустрэчы і абмеркаванні надзённых эканамічных пытанняў, звязаных з энергетычнымі інтарэсамі краінаў Балтыйска-Чарнаморскага рэгіёна. Аргкамітэту на чале са старшынёй З. Пазьняком даручана стварыць групу з прадстаўнікоў зацікаўленых краінаў і пачаць канкрэтную работу па эканамічным і тэхнічным забеспячэнні праекта.

Удзельнікі канферэнцыі прынялі зварот да ўрадаў і парламентаў Беларусі, Латвіі, Летувы і Украіны, у якім прапануюць правесці сумесную нараду паўнамоцных прадстаўнікоў і спецыялістаў. На нарадзе неабходна будзе абмеркаваць пытанне пра будаўніцтва балтыйска-чарнаморскага нафтавага калектара і стварыць рэгіянальны банк развіцця краін Усходняй Еўропы, які павінен узяць абавязак фінансаваць праект і ўсе іншыя мерапрыемствы, звязаныя з эфектыўным выкарыстаннем энергарэсурсаў, развіццём энергетыкі, транспарту, сувязі і экалагічнай аховы ў рэгіёне. Удзельнікі канферэнцыі падкрэсліваюць, што яе правядзенне выклікана выключна пошукам вырашэння гаспадарчых праблем і не накіравана супраць нейкіх краін. Будаўніцтва БЧНК будзе спрыяць магчымасці атрымоўваць дадатковую нафту, захаваць рабочыя месцы на існуючых нафтаперапрацоўчых заводах Беларусі і Украіны, стрымае спад эканомікі.

Удзельнікі каферэнцыі выказалі падзяку за добрую арганізацыю і пагадзіліся з прапановай правесці наступную канферэнцыю ў Кіеве.

**З. СІЦЬКО.**

WIS

## Чырвоная кніга народаў

***Група эстонскіх навукоўцаў перадала Нацыянальнай бібліятэцы сваю працу «Чырвоная кніга народаў Расійскай імперыі», якую рыхтавалі каля пяці год. У кнізе знаходзяцца дадзеныя пра 85 народаў і народнасцяў, што пражывалі на тэрыторыі былога СССР і знаходзяцца пад пагрозай поўнага знікнення. Гэта першае такое выданне ў свеце. Кніга надрукавана па-эстонску, рыхтуюцца яе пераклады на расійскую, англійскую і французскую мовы.***

*Лехці МЭТСААЛЬТ.*

# Гавораць беларусы свету

## толькі для «Нашага слова»

*Васіль СУПРУН*

## Клічуць веча званы

*Удзельнікам Усебеларускага з'езда прысвячаю*

**З-над Нёмана, Сожа, Дняпра і Дзвіны,**
**З-над Прыпяці, Буга — па краю**
**Святой Беларусі б'юць веча званы,**
**На чын патрыётаў збіраюць.**

**Так станем жа дружна ў рады змагароў**
**За лепшую долю народа!**
**Хай мэты і дзеі адданых сяброў**
**Трыумфам вянчае свабода!**

**За волю, за шчасце на роднай зямлі**
**Героі жыццё аддавалі.**
**Мы ж зробім усё, каб іх мары жылі**
**І ў нашай змагарскай маралі.**

**І з верай ў народ наш і сілу сваю,**
**З' яднаны Пагоняй, мы зможам**
**Вярнуць — што чужынцы стапталі ў краю.**
**Ты нам памажы ў гэтым, Божа!**

### *Уладзімір Калеснік, пісьменнік, прафесар Брэсцкага педінстытута*

**— Спадар Калеснік, з якім настроем і думкамі Вы прыехалі на з'езд беларусаў свету?**

— Прыехаў з надзеяй, што ўмацуецца наша сябрына, наша адчуванне нацыянальнай еднасці, згуртаванасць беларусаў, з адчуваннем еднасці вялікай задачы, якая стаіць перад народам, каб стаць народам гістарычным у гэтай гісторыі, утрымацца эканамічна і, галоўнае, культурна, духоўна. Я думаю, што гэта той з'езд, аб якім марылі ў 20-я гады і ў 26-м годзе дзеячы БНР. У прыватнасці, гэта ідэя Івана Ігнатавіча Краскоўскага. Ён у 26-м годзе прапанаваў склікаць у Менску сусветны з'езд беларусаў і гаварыў, што калі гэты з'езд адбудзецца, і калі беларусы сустрэнуцца і паразумеюцца, пагавораць між сабой па душах пра праблемы нацыянальнага жыцця беларусаў, то Менск ператворыцца ў беларускія Атэны. Але не было, відаць, тады адпаведнай палітычнай атмасферы, каб склікаць з'езд менавіта беларусаў свету. Таму склікалі міжнародную акадэмічную канферэнцыю па праблемах беларускага правапісу і літаратурнай мовы. Па літаратуры была секцыя, пра літаратуру на з'ездзе многа гаварылі, прыязджалі даследчыкі беларускай культуры з Польшчы. Іван Краскоўскі быў высокай думкі аб гэтай канферэнцыі, казаў, што яна дала значную карысць. І сапраўды, зборнік, што быў выпушчаны па матэрыялах канферэнцыі, цікавы. У ім закрануты многія пытанні духоўнага жыцця беларускай нацыі.

Вось цяпер наступіў новы час, ёсць адпаведная атмасфера, умовы для склікання гэтага з'езда, і з'езд сабраўся. Я веру, што на ім будуць выказаны менавіта такія думкі для духоўнага аб'яднання беларусаў, якія будуць заснаваны на чыстай гістарычнай праўдзе, на высокай сумленнасці, на аб'ектыўнасці. Таму што наша думка занадта заідэалагізаваная сёння, з аднаго боку, а з другога, як можна кансерватарамі называць людзей, каторыя хочуць захоўваць, можа, замнога добрага з таго, што ўсё-такі там было ў пэўнай меры, бо каб не было нічога добрага, то БССР не было б, была б правінцыя гэтай дзяржавы — Саюза. Штосьці было, але замнога хочуць, і вяртаць хочуць замнога, а трэба новае напрацоўваць. Добра тое, што з'езд будзе кансалідаваць беларусаў, спрыяць развіццю нашай ментальнасці, нашай нацыянальнай свядомасці і нашай культуры. Гэта галоўнае. Усё-такі ўвесь час у Заходняй Беларусі развівалася беларуская культура — я займаўся літаратурай заходнебеларускай і гэта ведаю. Развівалася яна натуральна пры тым уціску з боку польскіх уладаў, палітычнаму ціску, дыскрымінацыі беларусаў, якія там былі. Яна развівалася нармальна. І да чаго ж прыйшоў, скажам, лідэр хрысціянскай дэмакратыі Адам Станкевіч? Да таго, што самым важным для беларусаў, у адраджэнні беларусаў, з'яўляецца адраджэнне культуры. Тут, пэўна, быў нейкі кампраміс з яго боку, бо гэтыя словы ён выказваў у трыццатыя гады, калі ўжо польскі ўрад давёў парламенцкую сістэму выбараў да такой жорсткасці, што меншасці нацыянальныя не мелі шансаў туды сваіх паслоў і сенатараў правесці і весці дэмакратычным спосабам барацьбу. Дык Станкевіч рашыў весці гэтую барацьбу на полі культуры. Нават стварылася такая ідэя: Бжазінскі, такі крытык быў першы, апавясціў, што беларусы могуць выйсці на міжнародную сусветную арэну як нацыя цераз добрых раманістаў. Калі некалькі добрых раманаў беларускіх пісьменнікаў будуць перакладзены на ангельскую, французскую, нямецкую мовы,— вось тады і пазнае свет Беларусь. Цераз літаратуру, значыць, да яднання са светам. І Станкевіч быў такой думкі, што духоўная сфера, сфера нацыянальнай беларускай культуры — гэта першасная сфера, самая важная для адраджэння нацыі. Я думаю, што гэта ідэя ў яго ўзнікла таму, што пачаў дзейнічаць сталінскі прынцып азначэння культуры на тэрыторыі Усходняй Беларусі — «сацыялістычная па змесце, нацыянальная па форме». А што значыць «па форме»? Гэта значыць — па слову, а змест культуры павінен быць нейкі не беларускі, не нацыянальны. Вось ён і гаварыў, што ў гэтай формуле жалезнай заложана падрыўная міна. І ён свой артыкул, прысвечаны праблемам культуры Савецкай Беларусі, назваў «Цені і бляскі». Бляскі — гэта тое, што ў БССР выдаецца ўсё-такі многа кніг беларускіх, школы беларускія працуюць, а цені — гэта тое, што зглумілі інтэлігенцыю беларускую і далей прадаўжаюць глуміць, нішчыць. Дык вось, каб гэта спыніць, ён лічыў, што трэба падымаць культуру і цераз культуру дзейнічаць на сумленне свету, на грамадскую думку свету. І гэта добра, што сёння таксама будзе выказана гэта ідэя ўсяму свету: што беларусы хочуць быць сабою, хочуць быць нармальнай нацыяй — са сваёй мовай, са сваёй дзяржавай, са сваім войскам і г. д.

**— Цяпер у нас існуюць два варыянты беларускай мовы. Адзін ужываецца нашай дыяспарай, і тут у нас як бы раскол. Ваша думка па гэтым пытанні?**

— Я думаю, што трэба паступова зводзіць абодва варыянты ў кадыфікаваную літаратурную мову. Літаратурная мова павінна быць нарматыўнай, адной для ўсіх. Іначай яна не выконвае ролі літаратурнай мовы. Канешне, тое, што было зроблена ў трыццатыя гады — гэта палітычны глум над беларускай мовай, каторая не з'яўляецца ні палітыкай, ні ідэалогіяй. Яна стаіць над ідэалогіяй. Гэта якраз духоўны набытак народа. Але ж пасля трохі чысцілі тыя пераскокі-заскокі. Тым не менш, тады была літаратурная мова і мова прэсы, мова адміністрацыі, якая з'яўляецца мовай русіфікаванай, саветызаванай, што трэба ў ёй прыбраць.

Але правапіс Тарашкевіча кансерваваць — таксама крайнасць, каторая не дасць нам літаратурнай мовы на сённяшні дзень. Сам Тарашкевіч не быў настолькі ўпэўнены, што напісанае ім у тэрміновым парадку (правапіс, граматыка) адлюстроўвае ўсе асаблівасці мовы і дае нарматывы мовы. Я за тое, каб захоўваць этымалагічны, а не толькі фанетычны прынцып «як чуецца, так і пішацца». Бо па гэтым «як чуецца, так і пішацца» не будуць людзі разумець, адкуль паходзяць тыя або іншыя словы.

### *Уладзімір Місяюк, благачынны Сакольскай акругі (Польшча)*

**— Айцец Уладзімір, Вы — праваслаўны святар, служыце ў царкве і жывяце ў Польшчы. Як Вы захавалі сваю беларускасць?**

— Я цэлы час прызнаюся ў сваёй беларускасці. Зрэшты, калі яшчэ вучыўся ў школе, у нас з першага класа была беларуская мова, а польскую вывучалі як замежную. Праз пару гадоў сітуацыя змянілася не на карысць беларускай мове. Таму сёння ў Польшчы не ўсе дзеці ў месцах этнічнага пражывання беларусаў вывучаюць родную мову.

**— Адкуль Вы родам?**

— Адтуль, адкуль прыехаў. І мае бацькі, дзяды адтуль. Праўда, у Першую сусветную вайну яны ўцякалі ў Расію, на Волгу, аднак на сваю бацькаўшчыну вярнуліся. За гэта, што яе трымаліся, іх папракалі здраднікамі.

**— Ці падтрымліваеце сувязі з Беларуссю?**

— Стараюся так ці інакш іх падтрымліваць, хоць раней гэта было трудна рабіць, бо, прыехаўшы на ваш бок, не раз чуў такое: «Ты беларус, а жывеш у Польшчы? Чаму ты там? Ты — здрайца!» Горка было слухаць такое, крыўдна, таму многія беларусы з Польшчы не хацелі ў вас прызнавацца, хто яны і адкуль прыехалі.

**— Раскажыце, як Вы даносіце да людзей беларускую ідэю ў сябе дома? Мабыць, праз царкоўную службу і казані?**

— Выхоўваецца людзей не толькі праз службу і казань. Выхоўваецца штодзённым жыццём, уласным прыкладам, калі ў такіх людскіх адносінах чалавек не забываецца свайго роднага, падтрымоўвае звычаі — ці то каляданне, ці то валачобніцтва, ці то «дзяды», — каб звычаі гэтыя не загінулі. Выехаўшы з вёскі ў горад, маючы ў сабе пасеянае зерне, людзі растуць далей духоўна.

**— Ці сочыце Вы за нашым друкам і кніжнымі навінкамі?**

— У Польшчы маем свой беларускі друк. Што да вашых кніг і газет, то з гэтым у нас стала цяжэй. Раней вашы газеты прыходзілі разам з расійскімі па пошце. Іх можна было пайсці і купіць. А цяпер то адно, калі хтосьці абаротны знойдзецца, ды пае-

# ГАВОРАЦЬ БЕЛАРУСЫ СВЕТУ

## толькі для «Нашага слова»

дзе ў Менск і прывязе сюды рукзак з кнігамі ды газетамі...

**— Што Вы думаеце пра Першы з'езд беларусаў свету?**

— Думаю, што прыйшлі тры вялікія дні. Яны паказалі, што мы жывём. Чулі прытчу пра двух манахаў? Дык вось, два манахі прыехалі ў адно места і цэлы дзень хадзілі па вуліцах, былі сярод людзей. Калі вярнуліся дадому, малодшы і пытае ў старэйшага: «Што за карысць з таго, што мы тут былі, хадзілі? Мы ж нічога не прапаведавалі!» А старэйшы адказаў: «Але ж мы тут паказаліся, і людзі нас пабачылі, пабачылі, што мы ёсць і жывём».

Ведаеце, я спадзяюся, што з'езд абудзіць тых, хто спаў, абудзіць лянівых і справядлівых, абудзіць сумленне ў вашага Вярхоўнага Савета. Пытанне незалежнасці Беларускай царквы мы тут не вырашым, бо царкве чужыя рэвалюцыйныя ідэі. Але царква — захавальніца традыцый, яна можа выхоўваць святароў і патрыётаў Бацькаўшчыны, сеяць у людскіх душах зерне роднай культуры.

**— Што пажадаеце беларускаму народу напрыканцы нашай гутаркі?**

— Я хачу сказаць яму словамі Палуяна: «Хрыстос уваскрос! З вялікім святам адвечнага ажыўлення віншую цябе, Вялікі Беларускі Народ! Страсі з сябе ўсю пагарду, увесь бруд, катором аблепліваюць цябе ад вякоў... Надзея, як жывучая вада, льецца ў тваю душу. Скора і ты ўваскрэснеш ад доўгага мёртвага сну...»

*Каралькоў Яўген Мікалаевіч, бежанец з Абхазіі, цяпер без месца пражывання*

**— Вы пікетуеце будынак, дзе праходзіць Першы з'езд беларусаў свету. Па якой прычыне?**

— Я мінчанін і беларус, працаваў тут усё жыццё. Затым пераехаў у Абхазію. Цяпер з малым сынам выехаў адтуль, бо жыць няма як — ідзе вайна. Далі нам прытулак добрыя знаёмыя ў інтэрнаце. Паколькі жыў і працаваў тут, дык звярнуўся ў гарвыканкам, каб дапамаглі з жыллём і работай. Але мне сказалі: табе месца тут няма.

**— Дзе Вы былі ў гарвыканкаме?**

— У так званым аддзеле па працы з мігрантамі, пакой 131, там Сыракевіч начальнікам. Я да яго звярнуўся, а ён так і сказаў: «Вам дарога сюды закрыта».

**— І ніякай дапамогі Вам нашы ўлады не паабяцалі?**

— Абсалютна. Хацеў звярнуцца за дапамогай да суайчыннікаў на з'ездзе, але мяне туды не пусцілі.

**— Назавіце адрас, па якому Вас прытулілі знаёмыя ў Менску.**

— Калі ласка: вуліца Караля, 9.

**— Дзякую за інтэрв'ю. Спадзяюся, што пасля з'езда ўрад Рэспублікі Беларусь усур'ёз зоймецца праблемамі суайчыннікаў з блізкага замежжа.**

Гутарыла
Ірына Крэнь.

**— Спадар Пятро, я ведаю, што Вы былі вязнем Бухенвальда і адтуль трапілі ў Канаду. Раскажыце пра гэта.**

— Сапраўды, на мой лёс выпалі цяжкія выпрабаванні і пакуты. Давялося выцерпець усе тыя здзекі і шматлікія допыты, якія ўчыняліся над савецкімі ваеннапалоннымі ў Бухенвальдзе. Нас вызвалілі

# Беднасць кідаецца ў вочы

*(Гутарка з дэлегатам I з'езда беларусаў свету сп. Пятром Шышко (Чэчко) з Канады)*

амерыканскія салдаты. У горадзе Нордхаўзэн размясцілі лагер па рэпатрыяцыі савецкіх ваеннапалонных. Па загаду кіраўніцтва гэтага лагера я нейкі час працаваў начальнікам па забеспячэнні. Ніколі не думаў застацца жыць за мяжой. Але абставіны складваліся так, што вяртацца на Радзіму было небяспечным, паколькі былых вязняў Бухенвальда чакалі савецкія канцлагеры ў Сібіры. Я быў сведкам, як праз некалькі месяцаў пасля рэпатрыяцыі вярнуліся з Дрэздэна двое вязняў, што былі са мной у Бухенвальдзе. Ад іх я і даведаўся, што ўсіх нас адпраўляюць у Салаўкі і на Калыму. Я стаў перад выбарам: вярнуцца на Радзіму і загінуць ад рук савецкіх катаў ці застацца жыць за мяжой і чакаць лепшых перамен на Бацькаўшчыне. І я выбраў другое. Пераехаў у горад Касэль, а праз нейкі час у горад Франкфурт-на-Майне, дзе працаваў у амерыканскім крымінальным вышуку. Там пазнаёміўся са сваёй жонкай Любай. Яна ўкраінка. У 1953 годзе мы з ёй пераехалі ў Канаду. Маем свой дом, атрымліваем даволі вялікую пенсію. Але мяне ніколі не пакідала жаданне вярнуцца на Радзіму.

**— Як складваўся Ваш лёс у Канадзе? Пэўна ж, былі нейкія цяжкасці напачатку і з ангельскай мовай?**

— Так, ангельскую мову давялося вывучыць. Напачатку працаваў электрыкам, нейкі час водаправодчыкам, але больш за ўсё дэкаратарам. Пасля вайны ў Германіі закончыў школу дэкаратараў. Гэтую прафесію асвоіў добра. У Канадзе работа дэкаратара вельмі цэніцца і добра аплочваецца. Я арганізаваў сваю фірму. Працавала ў ёй некалькі чалавек. Рабілі дэкарацыі у асноўным у багатых раёнах горада, бо я меў рэпутацыю добрага спецыяліста. Заробкі былі неблагія.

**— Спадар Пятро, я ведаю таксама, што Вы падтрымлівалі беларускі друк у Канадзе. Чаму? Гэтая ж справа патрабавала немалых выдаткаў.**

— Як бы нам добра ні было на чужыне, але немагчыма забыць тое месца, дзе нарадзіўся, дзе прайшло тваё дзяцінства. Нас там засталося шмат добрых, шчырых беларусаў, адукаваных, якія б маглі прынесці немалую карысць Беларусі тут, на сваёй Радзіме. Але лёс распарадзіўся інакш, і мы стараліся жыць так, каб ва ўсім свеце ведалі, што беларусы ў Канадзе не спяць, а ўсяляк стараюцца наблізіць час незалежнасці сваёй Бацькаўшчыны. Як толькі я прыехаў у Канаду, адразу пазнаёміўся з рэдактарам газеты «Беларускі голас» Сяргеем Хмарай. Больш за 25 гадоў я быў у рэдкалегіі гэтай газеты, дапамагаў яе выдаваць. Даводзілася таксама і матэрыяльна падтрымліваць гэтае выданне. Рассылалі газету ў ЗША, Аргенціну, былы Савецкі Саюз і іншыя краіны свету.

**— Ці цесныя ў Вас кантакты са Згуртаваннем беларусаў Канады?**

— У нас былі пэўныя разыходжанні, але цяпер сувязі наладжваюцца. Хацелася б адзначыць, што старшыня Згуртавання беларусаў Канады сп. Ганько сумленны, працавіты чалавек, шчыры патрыёт сваёй Радзімы.

**— Ці ўпершыню Вы тут, на Беларусі, за 50 гадоў? Якія Вашы ўражанні?**

— Першы раз я наведаў Менск у 1964 годзе. Яшчэ жыла мая маці. Тут, у Менску, у гатэлі, я быў затрыманы супрацоўнікамі КДБ. Месяц знаходзіўся пад арыштам, пакуль з Масквы не прыйшло пацвярджэнне, што я ў час вайны ніякіх злачынстваў супраць свайго народа не рабіў. Толькі тады мяне адпусцілі. Я вярнуўся ў Канаду. Потым яшчэ прыязджаў даволі часта, бо тут жыве шмат маіх сваякоў, і ўсіх хацелася пабачыць. Калі казаць пра мае ўражанні, то хацеў бы адзначыць, што Менск — прыгожы горад, і людзі тут прыветлівыя, шчырыя, але ж беднасць адразу кідаецца ў вочы. Спадабалася, як праходзіў з'езд. Прыемна асэнсоўваць, што нашы намаганні не прайшлі дарэмна. Першыя вынікі ўжо ёсць.

Гутарыла
Любоў БАРШЧЭЎСКАЯ.



**ПАЧАЛАСЯ РЭКАНСТРУКЦЫЯ БРЭСЦКАГА ЧЫГУНАЧНАГА ВАКЗАЛА. Работы выконваюць спецыялісты па рэстаўрацыі помнікаў даўніны з Варшавы. Няўжо няма сваіх спецыялістаў?**

## Памяць — сонейка нябожчыкаў

*26 чэрвеня ў Ігумене прайшлі традыцыйныя жалобныя літургіі ля месц апошняга спачынку ахвяр бальшавізму (там, нагадаем, расстрэльвалі палітвязняў менскай турмы). Прысутнічалі прадстаўнікі БНФ, Мартыралога Беларусі, Асацыяцыі палітычных вязняў Беларусі, Беларускай хрысціянскай злучнасці «Курапаты», Саюза летувіскіх палітычных вязняў «Саюдзіс» і іншыя. За ўпакой расстраляных у 1941 годзе беларусаў і летувісаў адслужылі імшу беларускі уніяцкі ды летувіскі каталіцкі святары.*

*Паўлюк БЫКОЎСКІ.*

*Госці рэдакцыі*

# Вітаўт Кіпель: «Вашу газету люба чытаць»

***У дні работы Першага з'езда беларусаў свету рэдакцыю «Нашага слова» наведаў адзін з самых аўтарытэтных дзеячаў беларускай эміграцыі ў ЗША рэктар Беларускага Інстытута Навукі і Мастацтва ў Нью-Йорку, доктар Вітаўт Кіпель. Разам з ім была жонка, доктар Зора Кіпель — вядомы сярод амерыканскіх беларусаў славістбібліёграф, доўгі час яна працавала ў славутай Нью-Йоркскай публічнай бібліятэцы, якая мае найбольшы ў Амерыцы беларускі фонд.***

Спадар В. Кіпель падпісаў і падараваў супрацоўнікам рэдакцыі некалькі паасобнікаў сваёй новай кнігі «Беларусы ў ЗША», якая нядаўна выпушчана ў свет менскім выдавецтвам «Навука і тэхніка». Спадарыня З. Кіпель тым часам гартала свежыя нумары менскіх газет. Затым за кубкам кавы адбылася кароткая (госці былі абмежаваны надзвычай напружанай праграмай работы з'езда), але вельмі змястоўная, шчырая і зацікаўленая сяброўская гутарка, у якой ад ТБМ імя Ф. Скарыны ўдзельнічалі намеснік старшыні Таварыства, народны дэпутат Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь спадар Я. Цумараў і сакратар рэспубліканскай Рады спадар В. Вільтоўскі.

В. Кіпель, у прыватнасці, сказаў: «Наша слова» мае добры фармат. Ён вельмі практычны... Вашу газету люба чытаць». Я. Цумараў растлумачыў гасцям, што выданне «Нашага слова» ажыццяўляецца на недасканалай паліграфічнай тэхніцы, якая не адпавядае патрабаванням сённяшняга дня. Але з боку кіраўніцтва ТБМ робіцца захады, каб неўзабаве перавесці выданне на новую тэхналагічную базу і забяспечыць рэдакцыю дасканалай аргтэхнікай.

В. Кіпель выказаў думку, што гісторыя Беларусі будзе няпоўнай без гісторыі беларускай эміграцыі, гісторыі беларускай дыяспары ў розных краінах свету. Таму па згаданых тэмах, відаць, ужо зараз неабходна рыхтаваць і пачынаць чытанне адпаведных універсітэцкіх курсаў. Я. Цумараў паведаміў, што Вярхоўны Савет стварыў рабочую групу па распрацоўцы глыбокай рэформы вышэйшай школы. Высвятляючы сучасны стан спраў на месцах, гэта група хутка пераканалася, што менавіта сярод выкладчыкаў гуманітарных дысцыплін ВНУ палітыка беларусізацыі сустракае найбольшае супраціўленне. Нічога тут дзіўнага, — падкрэсліў народны дэпутат, — бо звыш 60 працэнтаў з іх — не ўраджэнцы Беларусі, раней яны ідэалагічна абслугоўвалі партнаменклатуру, большасць — звычайныя прыстасаванцы, далёкія ад сапраўднай навукі. Таму кардынальна рэфармаваць ВНУ, у тым ліку ўвесці новыя гістарычныя курсы, з такімі выкладчыкамі пакуль цяжка.

Падсумоўваючы ўражанні, атрыманыя падчас свайго цяперашняга наведвання Бацькаўшчыны, спадар В. Кіпель, у прыватнасці, адзначыў, што зрухі да лепшага на Беларусі ёсць. Так, гэта бачна, напрыклад, у масавым выданні ў рэспубліцы новых школьных падручнікаў. Але адзначу, што выдаваць зараз падручнікі, якія пачынаюцца словамі «Широка страна моя родная...», мякка кажучы, нематэазгодна.

У гутарцы былі закрануты таксама іншыя пытанні грамадскага і культурнага жыцця Беларусі, якія хвалююць і непакояць нашых суродзічаў у ЗША. На развітанне спадарыня З. Кіпель выказала жаданне напісаць у «Наша слова» аб сваіх пачуццях і думках, якія ў яе нарадзіліся тут, на Бацькаўшчыне. Прапанова шаноўнай госці ахвотна прымаецца.

М. В.

*Айген КАЛУБОВІЧ*

# «Свабода, свабода і яшчэ раз свабода!»

***(Раздзелы з кнігі «На крыжовай дарозе»)***

*Працяг.*
*Пачатак у №№ 12, 13, 31.*

У дадатак да згаданых А. Баліцкага, М. Каспяровіча, Я. Васілевіча і Я. Сушынскага —

**Янка Бялькевіч**, былы інспектар Наркамасветы БССР, дырэктар Мсціслаўскага Белпедтэхнікума, сябра Правапіснае камісіі Інбелкульта і БелАН (1927—30 гг.). Аўтар «Краёвага слоўніка ўсходняй Магілёўшчыны», самага поўнага краёвага слоўніка беларускай мовы (выдадзенага толькі па смерці аўтара, у 1970 годзе).

**А. Аніхоўскі**, інспектар Наркамасветы БССР.

**Янка Арабей**, дырэктар Аршанскага рабфака.

**Настаўнікі Яўхім Кіпель, Лявон Апацёнак, Пятро Зарэмба** і іншыя.

Таксама — лекары, стрыечныя браты **Язэп і Кастусь Бараноўскія.**

Спіс гэты не поўны. Мы ведалі, што арыштаваных было болей. (У двух выпадках будзе названа яшчэ колькі асоб).

А ўвогуле здавалася, што арыштам няма канца. БССР у гэтым годзе нагадвала царства турэмных ключоў. Турмы, камеры, дзверы і... ключы, ключы... Звон гэтых ключоў у руках тысяч наглядчыкаў заглушаў усе іншыя гукі «рэспублікі» — камеры расейскай «турмы народаў».

У Гомелі я думаў, што ў такі час сорамна быць «на волі». Але тады я не ведаў, што так думалі і ў Менску. Улетку, калі арышты тут дайшлі да найвышэйшай ступені, той, хто заставаўся яшчэ «на волі», чуўся ня ёмка.

— Нібы нейкі здраднік,— сказаў аднойчы пра сябе беларускі гісторык, праф. БДУ В. Дружчыц.— Хоць ты пайдзі і сам сядзь з усімі.

А Мікола Мамчыц, студэнт БДУ (які з патрыятычных меркаванняў у 1925—27 гг. перарваў сваю навуку, каб папрацаваць акруговым школьным інспектарам у далучанай да БССР новай Клімавіцкай акрузе), так і зрабіў. Вярнуўшыся ў Менск з вакацый, ён знайшоў сваю кватэру апячатанай. Калі ад суседзяў даведаўся, што ў ёй быў вобыск і што амаль усе ягоныя блізкія сябры (А. Аніхоўскі, У. Потас, П. Бабарэка і інш.) арыштаваныя, ён сам пайшоў у ГПУ і згаласіўся.

Там яго прынялі не адразу. Прапанавалі пачакаць. Пакуль ён чакаў, надышлі з перадачамі жонкі арыштаваных. На іхнія адгаворы ён спакойна заявіў:

— Нічога не баюся, бо ніякае віны за сабою не чую. Нікуды не хачу бегчы, нікуды хавацца. Хачу быць разам з усімі.

Усіх іх, «беларускіх буржуазных нацыяналістаў», «нацдэмаў», абвінавачвалі ў тым, што яны быццам бы (падобна «Спілцы Вызвалення Украіны», працэс якой незадоўга перад тым закончыўся ў Харкаве) стварылі «контррэвалюцыйную антысавецкую арганізацыю» «Саюз вызвалення Беларусі», каторая паставіла сабе за мэту адарваць БССР ад СССР і далучыць яе да Польшчы. На люты 1931 г. быў сплянаваны публічны працэс, для падрыхтоўкі якога з Масквы ў Менск быў камандзіраваны афіцэр ГПУ Аргаў.

Найперш паміж арыштаваных ГПУ шукала «фігуру лідэра», які б на працэсе мог выступіць у ролі «кіраўніка арганізацыі», што ў сапраўднасці азначала б у ролі правакатара не толькі ў дачыненні да арыштаваных сяброў, але і наогул да ўсяе беларускае інтэлігенцыі. Прапазіцыі былі зробленыя А. Цьвікевічу, Я. Лёсіку, С. Некрашэвічу і З. Прышчэпаву. Усе яны адзін за другім не без драматычных сцэн прапазіцыю адкінулі.

Тады прапазіцыі былі робленыя не арыштаваным — Янку Купале і прэзідэнту БелАН праф. У. Ігнатоўскаму, пра што мы даведаліся ўжо будучы ў лагеры.

«Лідэра» аднак не знайшлі. Эвідэнцыі для абвінавачання не мелі. Працэс не клеіўся і, урэшце, быў зусім адкліканы. Праўда, за гэта была заплачана вялікая цана: спроба самагубства С. Некрашэвіча (ён выкінуўся ўнутры «амерыканкі» з другога паверха — не забіўся, але паламаў сабе ногі), спроба самагубства Я. Купалы (ён зрабіў сабе харакіры — магла быць смерць, але яго адратавалі) і самагубства У. Ігнатоўскага (4.II.1931 г. ён застрэліўся).

Пазней стала вядома, што ў канцы красавіка 1931 г. адных з іх ГПУ усё ж такі засудзіла на розныя тэрміны канцэнтрацыйных лагераў (А. Баліцкі, З. Прышчэпаў, Алесь Адамовіч, Г. Гарэцкі, Ф. Ждановіч, П. Ілінчонак, Я. Арабей), другіх зволніла з-пад арышту (А. Гурло, М. Байкоў, В. Шашалевіч, Ф. Купцэвіч, С. Дубінскі, Б. Эпімах-Шыпіла, П. Жаркі), а бальшыню — у адміністрацыйным парадку вывезла із БССР на 5 год ссылкі ўраёны Волгі і Поўначы РСФСР...

## Вызваленне

*Хто не быў — будзе;*
*А хто быў — не забудзе.*

*Лагерная прыказка*

Чаканы дзень прыйшоў 17 красавіка 1933 года. Раніцою наш ротны адвёў мяне да начальніка УРЧ Віжаіхіна. Той выцягнуў з шуфляды свайго стала невялікую паперку і абвясціў мне, што з «залікам рабочых дзён» (мне залічана 34 дні) учора тэрмін майго пакарання скончыўся. Сёння УРЧ будзе вырабляць дакументы для майго вызвалення з лагера.

Усю ноч я не спаў: заснуць не давалі неспакойныя думкі. За сцяною выў вецер. Снежным шротам біла па акну. Раніцою я апошні раз адсёрбаў лагерную «баланду» і развітаўся з маімі сябрамі...

З куфрам і «обходным листком» блізка 5-е гадзіны дня я іду ў УРЧ. Віжаіхін праверыў мой «обходной листок», выдаў мне пад расьпіску «Справку» аб вызваленні і паведаміў, што а 7-ій увечары на станцыю прыбывае мой цягнік. Да раз'езда Тахтамыгда ад лагера — кіламетраў два-тры, але тут, аказваецца, няма касы. Таму трэба па шпалах брысці яшчэ кіламетраў пяць на захад, да бліжэйшае станцыі.

Ён выклікаў нарадчыка і загадаў яму адвесці мяне да лагернай брамы. Там, на вахце, была зроблена рэвізія маіх рэчаў, пасля чаго «дежком» запісаў мяне ў свой «табель» і сказаў:

— Давай, проходи!

Выходжу за браму. Раблю крок налева, крок направа. Ніхто не страляе. Аглядаюся па баках і назад: не відаць ні «свечак», ні «попак». Так прывык да іх, што адразу цяжка паверыць, што іх няма, што можна ісці і без іх. Калі б не куфар, рукі самі б з прывычкі пацягнуліся за спіну, бо дзесь у мазгу яшчэ гучыць: «Взять руки назад!»

Іду і не веру. Развучыўся хадзіць сам, адвык. Неяк дзіўна, быццам у сне. Няма ніякага канвою. Я сам. Адзін...

У мяне ў запасе каля двох гадзін часу. Аднак я мушу ісці хутчэй: калі спазнюся на цягнік, суткі давядзецца чакаць наступнага. Іду, а куфар адрывае рукі. Гнуся ад ягонага цяжару. Спатыкаюся аб шпалы. І чым далей адыходжу ад лагера, тым болей думкі мае круцяцца каля яго. Не ідуць у голаў новыя думкі — пра «волю», будучыню. Дый якія будуць яны, тыя «воля» і будучыня? Як спаткаюць мяне? У маёй «Справке» аб вызваленні з лагера зазначана, што па прыездзе на месца жыхарства ў Хойнікі раён я неадкладна павінен з'явіцца ў раённы аддзел міліцыі і зарэгістравацца там. Значыць, жыць буду пад наглядам міліцыі (ці ГПУ).

З такімі думкамі і пачуццямі надыходжу да невялікага станцыйнага будынка з шыльдаю: Ольдой. У пустой пачакальні станцыі мяне спатыкае ізноў «опер». І зноў праверка дакументаў.

Праз колькі хвілін у маіх руках білет, і хутка прыйдзе цягнік.

Калі ён прыйшоў, я з маім куфрам бегаю ад вагона да вагона. Усюды праваднік мне кажа:

— Мест нет.

— Я мушу ехаць...

— Вам русским языком говорят: мест нет.— І дзверы вагона зачыняюцца.

Цягнік стаіць тут усяго адну хвіліну. Ніхто з яго не сышоў і ніхто не сеў.

Ён адышоў, а я застаўся. Наступны будзе заўтра ў гэты ж час — а 7-й увечары. Што рабіць? Ісці нанач у лагер? Куфар цяжкі. У лагер не пусцяць. Застануся тут на цэлыя суткі...

На наступны цягнік я прапанаваў праваднiку 50 рублёў, і ён дазволіў мне ўлезці ў калідорчык вагона каля ўборнай. Нарэшце, я стаю ў цягніку, пабач свайго куфра.

Свісток кандуктара. Гудок паравоза. Цягнік адыходзіць.

Едзем ізноў праз тэрыторыю «проклятых» царскіх і «заботливых» савецкіх ссылак, катаргаў, лагераў, «спецпосёлков». Толькі цяпер едзем у адваротным кірунку. Тут няма ні метра вольнае зямлі. Пад верхнім пластом яе — суцэльны могільнік людскіх касцей. Мінаем станцыі гэтага, забытага Богам, краю — Чыту, Іркуцк, Краснаярск, Новасібірск, Омск... У кожнай з іх, апрача розных лакальных, славутыя на ўвесь СССР перасыльныя турмы, а дзе і цэнтральныя ізалятары.

У вагоне, праўда, не відаць замкоў, кратаў, парашаў, канвою, дрэсіраваных сабак... Але пакуль едзем гэтай тэрыторыяй, кожны дзень (а то і два разы на дзень) чуем абрыдлае:

— Граждане, предъявите ваши документы.

Пры гэтым дзверы вагона з абодвух бакоў праваднік замыкае на ключ. І тут «опэры» на кожным кроку. Колькі ж іх усіх у СССР?

Ужо шмат дзён і начэй я стаю на нагах. Памалу праціснуўся ў калідор самога вагона. Ледзьве стаю. Ногі млеюць. Вочы зліпаюцца. Адна пацеха: не я адзін такі. Тут стаіць процьма людзей, бо месца ў купэ няма і надзеі ніякае. Праваднік вагона заявіў, што амаль усе пасажыры едуць да Масквы.

Так, стоячы, ці ў лепшым выпадку неяк прысеўшы на свой куфар, уначы патроху дрэмлем.

Ад Свярдлоўска наш цягнік пайшоў на Казань, Арзамас, Мурам, а не на Перм, Вятку і Яраслаў, кудою тры гады назад нас везлі праз Маскву на Урал. Тады мы былі пад замком, і ў Яраславе я не мог выйсці з вагона, каб пакланіцца месту Максіма Багдановіча. Цяпер я збіраўся гэта зрабіць. Я ведаў, што тут дажывае свой век ягоны бацька.

Але я не ведаў, што ў 1931 годзе сюды з турмы Менскага ГПУ былі прывезеныя ў ссылку першы прэзідэнт Беларускай Народнай Рэспублікі др. І. Серада і міністр Урада БНР праф. А. Смоліч. Жонка прэзідэнта к таму часу ўжо мела сабе новага кандыдата. І ў дзень, калі мужа пад канвоем павезлі ў ссылку, пабралася з ім. Іншыя жонкі засуджаных па справе «Саюза вызвалення Беларусі», наадварот, паехалі ў ссылку за сваімі мужамі. Так зрабіла і дачка прэзідэнта — Наля, якой Я. Купала (блізкі сябра др. І. Серады з БНРаўскіх часоў) у 1921 годзе прысвяціў свой верш «Песня і казка». Наля пакінула Менск і паехала ў Яраслаў да бацькі.

З Масквы я еду на Гомель і Хойнікі. Еду і не ведаю, што на змену мне і іншым, вызваленым з лагераў, пачалася новая, 2-я ў 1930-х гг. хваля масавых арыштаў, хваля 1933—34 гг.

Ужо дома я даведаўся, што хваля гэтая пачалася ад студзеня 1933 года і, як і перад тым, у першую чаргу ў БССР яна ўдарыла па беларускай інтэлігенцыі. З беларускіх паэтаў і пісьменнікаў адзін за другім траплялі за краты: Лукаш Калюга, Максім Лужанін, аўтар славутай паэмы «Бенгалія» Сяргей Астрэйка, Андрэй Мрый (Шашалевіч), Мікола Нікановіч, Змітрок Астапенка, Сцяпан Ліхадзіеўскі, Юлі Таўбін, літаратурныя крытыкі Фелікс Купцэвіч і Апанас Сідарэнка (Пеначкін). З навукоўцаў — выдатны беларускі моваазнаўца, дырэктар Інстытута мовы і літаратуры АН БССР і загадчык катэдры моваазнаўства Менскага педагагічнага інстытута праф. Пятро Бузук, праф. Браніслаў Эпімах-Шыпіла (другі раз, у Ленінградзе), праф. Беларускага дзяржаўнага універсітэта Аўген Успенскі, дацэнт матэматыкі Гомельскага аграпедінстытута Аўген Аляхновіч, дацэнт агранаміі Янка Бойка і іншыя. Найбольш, аднак, было арыштавана беларускіх нацыянальна-палітычных дзеячаў: былых беларускіх паслоў у польскі сойм — кіраўнікоў Беларускай Сялянска-Работніцкай Грамады (БСРГ), пасольскага клуба «Змаганне» і Таварыства беларускай школы ў Заходняй Беларусі. Пасля іхняга арышту і засуду польскім судом у канцы 1920-х — пачатку 1930-х гг. іх наўперад зменена ці выменена ў БССР, а цяпер арыштавана — віднага дзяржаўна-палітычнага дзеяча БНР, заступніка старшыні ЦК БСРГ Сымона Рак-Міхайлоўскага; др. філасофіі, літаратураведа Ігната Дварчаніна; Язэпа Гаўрыліка, Пятра Мятлу, Паўла Валошына, Максіма Бурсэвіча, Флягонта Валынца, Міхася Кахановіча і г. д. Да іх былі далучаныя «перабежчыкі» ў БССР — выдавец беларускіх кніжак у 1910—14 гг., адзін з старэйшых збіральнікаў беларускага музычнага фальклору, кампазітар, аўтар спеўнікаў і падручнікаў музыкі Антон Грыневіч; беларускі палітычны дзеяч Заходняй Беларусі, паэта, пісьменнік і драматург з нашаніўскіх часоў Леапольд Родзевіч (брат інж. Чэслава, арыштаванага ў 1930 годзе); актыўны сябра БСРГ, аспірант Інстытута мовы і літаратуры АН БССР, паэта і літаратуравед Алесь Салагуб. З Менска — ужо згадваны намі Ю. Лістапад, журналіст Лявон Савёнак і шмат іншых, разам 196 асоб у першай групе, а за імі па ўсёй БССР — тысячы. Усе яны абвінавачаныя ў тым, што быццам бы стварылі Беларускі Нацыянальны Цэнтр (БНЦ), які рыхтаваў на восень 1933 ці на вясну 1934 года паўстанне ў Беларусі і адарванне яе ад СССР.

Таксама дома я даведаўся, што Бабчынскі педтэхнікум неўзабаве па нашым арышце быў зачынены. Студэнтам ягоным прапанавана ехаць у Мазырскі тэхнікум, з якім Бабчынскі нібы аб'ядноўваўся. Даведаўся, што ў Хойніцкім раёне ад пачатку года арыштавалі шмат настаўнікаў, а паміж іх і Хаму Міскевіча, былога дырэктара Бабчынскага тэхнікума, пераведзенага перад тым з Бабчына ў Паселіцкую сямігодку загадчыкам. У Мазырскім ГПУ ён быў абвінавачаны па справе БНЦ і вывезены ў якісь лагер. Тысячы і тысячы новых арыштаў...

...А лагер не выходзіць з галавы. У вачах так і стаіць сцэна: ідуць брыгада за брыгадаю з працы, ледзь валакуцца рабы лагернай імперыі. Твары на марозе пабкручваныя абы-якімі анучамі, злёгку абледзянелыя ад пары з роту. Іншыя анучы матляюцца на прышпіленых каўнерыках бушлатаў і на нагах паверх чаравікаў ці дзіравых валёнкаў. А яны, нявольнікі, асуджаныя на пакуты і смерць, сагнуўшыся ад стомы, ідуць па ўсё той жа крыжовай дарозе.

*Публікацыя*
*Аўгена Калубовіча*
*малодшага.*

**Вучымся!**

*Да 70-годдзя першадруку паэмы*

# Невядомая «Новая зямля»

Працягваем друкаваць матэрыялы пра невядомую «Новую зямлю» — вядомую ўсім паэму Якуба Коласа «Новая зямля». Супярэчнасць, парадокс? На жаль, не. Усе мы ў школе вывучалі гэты твор, але не кожны мог пачуць ад настаўніка, што «Новая зямля» — шэдэўр сусветнага значэння, што паводле сваіх літаратурных, мастацкіх, гуманістычных вартасцяў паэма Якуба Коласа роўная эпічным паэмам Гамера, Вергілія. Англійская паэтка, публіцыст, даследчыца і перакладчыца Вера Рыч, з ацэнкай якой чытачы ўжо знаёмы, ставіць яе поруч з трагедыямі У. Шэкспіра. «Новая зямля» павінна стаць асноўным творам курса сусветнай літаратуры, якую пачалі вывучаць у школах.

У школьныя гады мы ўсе чыталі «Новую зямлю». Але, не навучаныя чытаць, мы бачылі ў радках паэмы толькі тое, што навідавоку — сялянскі побыт. Гэта было наша ці знаёмае нам жыццё, і таму твор кранаў душу. Але знайшліся незычліўцы, якія пасмяяліся з нашай любові да свайго, з нашай «вясковасці». Нават даследчыкі, літаратуразнаўцы казалі нам бачыць у «Новай зямлі» «манументальны эпас пра жыццё і вызваленчую барацьбу беларускага народа». Не кожнаму настаўнік гаварыў пра «паэтычны вобраз роднага краю», пра «майстэрства Якуба Коласа-пейзажыста», пра «паэтызацыю працы», пра «паэму — энцыклапедыю беларускай прыроды».

Будзем жа чытаць шэдэўр Якуба Коласа!

У нарысе «Мой родны кут...» Янка Брыль успамінае, як паэма «Новая зямля» ўразіла палонных беларусаў у фашысцкім лагеры: «Бачыў я тады — пакуль што адзін раз у жыцці,— як самы просты, ледзь пісьменны чалавек плакаў над кнігай паэзіі».

Сэрца падкажа, што нас найболей кранае сёння. Будзем жа вучыцца чытаць шэдэўр нашай паэзіі «Новую зямлю». Розум давядзе, што вялікі гонар для народа мець такую душу, як у герояў паэмы Якуба Коласа, мець такі багаты — гуманістычны, эстэтычны, паэтычны — духоўны свет, які з вялікай любоўю і таленавіта апісаў сын нашага народа — Якуб Колас. Розум пераканае, што нашы сяляне, якімі грэбуюць нават тыя, хто крычыць пра правы чалавека, ва ўсе вякі не толькі тварылі і творац сваімі рукамі навакольнае хараство, але і ўмеюць цаніць прыгажосць. Апавядаюць, што маці Якуба Коласа так казала пра паэму: «Сынок, як жа хораша ты напісаў, быццам у маёй душы пабываў...»

Будзем жа вучыцца чытаць!

Па-свойму прачытала «Новую зямлю» Валянціна Адамаўна Выхота, кандыдат педагагічных навук, настаўніца Караваеўскай васьмігадовай школы Пухавіцкага раёна. Зачараваная паэмай, яна, як мовазнаўца, што вывучае лексіку, агульную для беларускай і нямецкай моваў, адзначыла ў паэме шмат слоў, агульных для гэтых дзвюх моваў. Сваё даследаванне спадарыня Валянціна пачала з метадычнай мэтай. Яна адшукала карані роднасці дзвюх моваў, што ўяўляюцца нам такімі рознымі, ды імкнулася пераканаць вучняў у магчымасці больш лёгкага засваення замежнай мовы, абапіраючыся на падабенства лексікі і граматыкі роднай і нямецкай моваў. Яе даследаванне пераконвае, што няма падстаў уяўляць бедная нашу мову, якая нібы не стварыла некаторых слоў-назваў для шэрагу рэчаў, з'яў, паняццяў, а пазычыла іх у суседзяў.

Нашы прашчуры, што паходзілі з так званых індаеўрапейцаў, ад іх і атрымалі гэтыя словы ў спадчыну. Даследаванне спадарыні Валянціны пазбаўляе аргументаў і тых незычліўцаў ды невукаў, якія з-за паўнага падабенства слоў, што тлумачыцца агульнай крыніцай паходжання лексікі, называюць нашу мову мешанінай з польскіх і расійскіх слоў. Наадварот, менавіта тая лексіка, што адносіцца да асноўнай дзейнасці чалавека, якраз адметная. І лепшы таму прыклад — слова *будаваць*, пра некаторыя значэнні якога вы прачытаеце ў артыкуле спадарыні Выхоты.

Ды як сказаў яшчэ Адам Міцкевіч, наша мова — адна з самых старажытных славянскіх. У ёй захавалася шмат архаічных рысаў і слоў, якія сведчаць, што ў пару, калі дзейнічаў шлях «з варагаў у грэкі», наша мова была развітай. Ускосна пацвярджаюць такое меркаванне шматлікія паганскія абрады, святы, сямейная, гаспадарчая, земляробчая ды іншыя магіі, якія маюць аналогіі ў падобных дзействах іншых індаеўрапейскіх народаў: арыяў, старажытных грэкаў, рымлянаў. Цалкам верагодна, што дзействы мелі і падобныя назвы, як, прыкладам, звычай беларусаў упрыгожваць хаты на сёмуху галінкамі бярэзінак, клёнаў. Гэтую зеляніну называлі «май». Ушанаванне багіні Маі, культ якой вядомы ў старажытным Рыме і ў старажытнай Індыі...

Валянціна Адамаўна складае слоўнік, у якім будзе не адна тысяча падобных слоў беларускай і нямецкай моваў. У іх ліку і не адна сотня слоў, якія належаць толькі гэтым дзвюм мовам. Шмат якія яна знайшла, чытаючы «Новую зямлю».

З. С.

*Над раскрытай кнігай*

# 2. БУДАВАЦЬ ← BHUMI=ЗЯМЛЯ*

*Зямля... зямля... туды, туды, брат,*
*Будуй яе... ты дай ёй выгляд...*

Якуб Колас. «Новая зямля»

У паэме Якуба Коласа "Новая зямля" чытач амаль не напаткае незразумелых, невядомых слоў — усе ўяўляюцца роднымі, беларускімі. А, між іншым, у дзівосную тканіну гэтага шэдэўра сусветнай літаратуры ўкраплены, як перлінкі, словы, якія нечужыя і немцам: дах (Dach n), крэйда (Kreide f), мур (Mauer f), мусіць (müssen), пасаваць (passen), шанаваць (schonen). Ды больш за сто іншых. Яны арганічна знітаваныя з лексікай усяго твора, жывуць і ствараюць выразныя, зразумелыя чытачам мастацкія вобразы. І калі мы падаём якое-небудзь з іх як чужое, пазычанае, тым сцвярджаем, што наша мова (значыць, і культура) горшая, абмежаваная толькі пэўнымі пластамі лексікі. Ці можна сабе ўявіць, што нашы прашчуры не ведалі слоў ахвяра (Opfer m), варштат (Werkstatt f), кварта (Quart n), радзіцца (raten), хата (Kate f)?

Этымалагічны аналіз дае падставу сцвярджаць, што тыя агульныя для беларускай і нямецкай моваў генетычна роднасныя словы паходзяць з так званай індаеўрапейскай моўнай сям'і. І таму яны перайшлі ў шмат якія мовы, што вылучыліся з гэтага адзінства. Прыкладам, вандраваць. Ням. wandern; англ. wander; дацкае vandre; шведскае vandra. Мае адпаведнасці ў іншых індаеўрапейскіх мовах і слова сцяна. Гоцкае stains 'камень', ням. Stein m 'камень', грэцкае stía, stíon 'каменьчык, крэмень', старажытнаславянскае stěna 'мур' ды ў іншых. Усе яны ўзыходзяць да індаеўрапейскага *steiă.

Каб наша сцвярджэнне было больш пераканаўчым, прапануем шэраг сказаў з розных раздзелаў "Новай зямлі".

І неба яснага **абрыс** Зірне скрозь цяжкія заслоны. Abriß n

Раз ён **абцасам** зачапіўся. Absatz m

(хмаркі) ў шаўках, агністых **аксамітах**. Samt m (грэц.→лац.→франц.)

Яму **аматар** пазайздросціць. Amateur m (лац.→франц.)

Не смех **блакітных** васілёчкаў. blau

А дзеці іх даўно сачылі і на ляту **блінцы** лавілі. Plinse f (сорбскае)

Дае дарэктару ён **бляху**. Blech n

Па **бруку** б'юць падковы звонка. параўн. Brücke f 'мост'

І не бярэ ніяк ахвота Туды зноў ехаць **будавацца**. bauen

Ды маці з дзядзькам добра знялі, Дзе тыя мыслі **вандравалі**. wandern

І строіць **жартаў** ім не варта. Scherz m

Вось тут лясок, вось крыж пахілы, Як **вартаўнік** чыёй магілы. Wärter m

Дык панРакоўскі! Ну, **віншую**! beglückwünschen

А **гандляры** крычаць, шчабечуць. Händler m

Яно не зможа пагадзіцца Ні з гэтым **гвалтам**, ні з бядою. Gewalt f

Мёд разліваюць тыя **гмахі**. Gemach n

Тут **грошай** трэба поўна жменя. Groschen m (лац.→ням.→чэшск.)

І чуў Міхал нутром, душою —

Не мае **грунту** пад сабою. Grunt m

Ідзе сярдзіта, пагражае, Па **даху** гонтамі страляе. Dach n

Скажу вам **дзякую** яшчэ раз. danken

Нясуць жанкі, нясуць мужчыны Кашы, **каробкі**, паўасміны. Korb m (лац.)

— А ну, давай, брат, запрабуем, Хоць на цікавасць **пакаштуем**. kosten

І з аднаго яны **кілішка** У цёткі Гені выпівалі. Kelch m (лац.)

І клуб, як з **коміна** пускае. Kamin m (грэц.→лац.→італ.)

Антось у ход пусціў далоні і **коркі** спрытна выбівае. Kork m (лац.→ісп.→нідэрл.)

А ні на грош няма ёй **кошту**. Kosten n (лац.)

На **крамах** вывескі чытае. Kram m

Ім цёмна, нема кніга **лёсу**. Los n

Было яшчэ крыху дадана Не вельмі добрых пажаданняў І пацер розных і **літанняў**. Litanei f (грэч.→лац.)

У **ліхтарах** агні трапечуць. Leuchte f; Lichter m; Leuchter m

Дарэктар рвецца на кавалкі...Дзярэцца нема, **лямантуе**. lamentieren (лац.→італ.)

Але той рай мы так **малюем**. malen

Цьфу ты! што гэта за **мара́**? Mahr m

За **мураванаю** сцяною. mauern (лац.)

І **мушу** я адно зазначыць. müssen

І **мух** не мала меў у носе. Mucke f; пар. Mucken haben 'з мухамі'

І ўсё, **нарэшце**, ў Божай волі! Rest m (лац.→франц.→італ.)

Ды стогі, сведкі цяжкай працы, Стаяць, як панскія **палацы**. Palast m (лац.→франц.)

З стала ён выняў ліст **паперу**. Papier n (грэч.→лац.)

Ідзе гаворка без **прымусы**. Muß n

Глядзіць, як бы **ратунку** просіць. Rettung f

Мінем дарогі, іх малюнкі, Ім не падведзены **рахункі**. Rechnung f

Антось **рыхтуе** паляванне. richten

Ў агні згарэла яе **скрыня**. Schrein m (лац.)

Ну, дзядзька, як на **смак**, Прызнайся? Geschmack m

З канём знаёміцца, сябруе, Так след у след і **спацыруе**. spazieren (лац.→італ.)

Гасцінцам дзяўчыну **трактуе**. traktieren (лац.)

Зірнуць часамі "ў свае святцы", Каб **трапным** словам адазвацца. trefflich

А хмаркі ў **фарбах** златалітных. Farbe f

І **хвалькі** жвавыя за **хваляй**, Як і нябыта, бягуць далей. Welle f

Ўставай у гэтую ж **хвіліну**! Weile f

На ёй і будка **цагляная**. Ziegel m (лац.)

**Цыбуля**, перчык, ліст бабкоў. Zwiebel f (лац.)

Над тым, хто родны скарб **шануе**. schonen

На гэты час, як з неба **шаты** Раскіне гожа над зямлёю. Schatten m

І не ухілішся ад **шкоды**: То дуб ссякуць... Schade m; Schaden m

— Эх, **шкода** брат: няма клякотак! schade,...

Па часе будзе і развага, Калі ў лоб стукне табе **шляга**. Schlägel m; Schlegel m

Згубілась **шруба** — стоп машына! Schraube f (лац.→рам.)

Абуўся дзядзька, штось **шукае**. suchen

На **шыбе** ўсё: снапкі ржаныя. Scheibe f

Варта падкрэсліць, што некаторыя з выбраных слоў маюць не адно значэнне ў абедзвюх мовах. І ў значнай частцы выпадкаў значэнні супадаюць. Прыкладам, бляха (Blech n): 'будаўнічы матэрыял', 'тонкі ліст жалеза з загнутымі краямі, на якім пякуць што-небудзь' і як зневажальнае пра значкі. Зірніце таксама на радкі паэмы, пададзеныя як эпіграф артыкула. І вы заўважыце, што Якуб Колас ведаў і другое значэнне слова будаваць — 'абрабляць зямлю'. Дадамо, што і ў гэтым значэнні яно індэнтычна нямецкаму bauen: die Erde bebauen 'абрабляць зямлю'. Такое значэнне слова будаваць ідзе ад індаеўрапейскага кораня *bhŭ, які праяўляецца ў старажытнаіндыйскім слове bhūmī 'зямля'.

Валянціна **ВЫХОТА**.

* *Назва артыкула рэдакцыйная.*




*Рубрыку вядзе*
*Лявон БАРШЧЭЎСКІ*

Магутны ўплыў на ўсю пазнейшую французскую літаратуру зрабіла творчасць Шарля Бадлера (1821—1867).

*Шарль БАДЛЕР*

## Чалавек і мора

Вольны чалавек, табе дорага мора.
У люстры шырокім тваю душу
Выяўляе прыбою бунтоўнага шум;
Твой розум, як нетры марскія, горак.

Акунацца ў свой вобраз табе прыемна, —
Рассякаеш хвалі смелай рукой,
Тваё сэрца адшуквае супакой
У скаргах яго дзікіх і гнеўных.

У вашых глыбінях таіцца трывога:
Чалавечым імкненням канца не відаць,
Мора скарбаў сваіх не жадае аддаць —
Таямніцы прадоння ахоўвае строга.

Адмаўляеце тысячагоддзяў апеку,
Не схіляеце ў бітвах сваёй галавы,
Смерць вам люба і гібель любіце вы,
О родныя браты і ворагі спрадвеку!

## Вячэрняя сугучнасць

Надыходзіць той час, калі ў паветры
Распускаюцца кветкі ў тумане вогкім;
У вячэрняй цішы карагодам лёгкім
Разам з пахамі гукі водзіць вецер.

Распускаюцца кветкі ў тумане вогкім;
Бы кволае сэрца, іскрынка б'ецца.
Разам з пахамі гукі водзіць вецер,
Неба застыла крышталем крохкім.

Бы кволае сэрца, іскрынка б'ецца...
Ах, чулае сэрца, не рвіся вонкі!
Сцелецца неба вэлюмам тонкім,
Чырвонай крывёю сонца ліецца.

Ах, чулае сэрца, не рвіся вонкі!
Хай шчасце былое пры нас застаецца!
Чырвонай крывёю сонца ліецца...
Ты сташ успамінам бліскуча-звонкім.

**Пераклад з французскай**
**Юркі ГАЎРУКА.**

* * *

Праўда ж, соладка нам — і заўсёды так будзе,
Бо стаміліся мы, як і іншыя людзі —
Штось на Ўсходзе Далёкім шукаць шмат разоў:
Чырвань неба на золку вітаць зноў і зноў;
Дасягнуўшы вышынь у кар'еры няспынпай,
Слухаць, як нараджаецца рэха за спінай,
Як каханкі там шэпчуцца, у цішыні —
Усё, што Госпад паслаў нам у першыя дні.

**Пераклад з французскай**
**Лявона БАРШЧЭЎСКАГА.**

**Чыталі?**

# Знаёмцеся: «Беларуская мінуўшчына»

Выйшаў першы нумар новага гістарычнага часопіса «Беларуская мінуўшчына», заснавальнікамі якога з'яўляюцца шэсць дзяржаўных і грамадскіх арганізацый (Камітэт па архівах і справаводстве пры СМ рэспублікі, Беларускі філіял міжнароднага фонда міласэрнасці і здароўя, Беларускі фонд славянскага пісьменства і славянскіх культур, Інстытут гісторыі АН Беларусі, Рада Згуртавання беларусаў свету «Бацькаўшчына» і Беларускі Навукова-Даследчы Цэнтр дакументазнаўства і архіўнай справы).

У праграмнай прадмове «Ведаць гісторыю — бачыць будучыню» заснавальнікі выдання, у прыватнасці, адзначаюць, што такі часопіс патрэбен, менавіта цяпер, калі беларусы, нарэшце, «атрымалі магчымасць «людзьмі звацца», быць народам, а не «тутэйшым насельніцтвам», мець годнасць і гонар паміж дзяржавамі... А дзеля гэтага... вельмі патрэбна такая «дробязь», якая ў цывілізаваных людзей завецца гістарычнай памяццю». Далей канстатуецца: «Сёння наша грамадства ў стане невядомасці. Што з намі будзе заўтра, праз месяц, год — мы не ведаем. Грунтоўнага адказу на гэтае балючае пытанне не дае і кіраўніцтва рэспублікі.

Вось чаму часопіс лічыць сваёй галоўнай мэтай... праўдзіва і аб'ектыўна, абапіраючыся толькі на сапраўдныя звесткі, асвятляць і складаць гісторыю нашых продкаў... бо толькі гістарычная праўда дапаможа адчуць свае карані, асэнсаваць сённяшняе, зазірнуць у дзень заўтрашні».

У артыкуле «Дзе зямля наша будзе, дзе Айчына ў нас?» доктар гістарычных навук М. Піліпенка робіць аналіз ужо вядомых навуковых канцэпцый складанай праблемы паходжання беларусаў. Продкамі сучасных беларусаў аўтар лічыць старажытных беларусаў (пасля знікнення крывічоў, радзімічаў і дрыгавічоў яны жылі ў падзвінска-дняпроўскім рэгіёне) і палешукоў — нашчадкаў летапісных дрáўлян. На карысць сваёй версіі навуковец прыводзіць даволі разнастайную аргументацыю, якая, несумненна, заслугоўвае пільнай увагі. Арыгінальнасцю вылучаецца і погляд А. Трубачова на этнагенез беларусаў (матэрыял «Не ад белай адзежы і светлых вачэй»). Паходжанню беларусаў прысвечаны таксама артыкул вядомага археолага Л. Побаля «Славяне — нашы продкі».

Пад рубрыкай «Хроніка» пісьменнік У. Арлоў даходліва і займальна распавядае пра сівую даўніну Беларусі, пачынаючы з першых летапісных звестак пра Полацк (862




г.) і да Нямігскай бітвы 1067 г. Гістарычныя нататкі пісьменніка вылучаюцца багатай, незашмальцаванай факталогіяй, нетрадыцыйным падыходам да вызначальных падзей мінулага Бацькаўшчыны. Тут не стрэнеш і кроплі таго, што атрымала назву «абзацдаршчына». Выступленне У. Арлова, бадай, самае ўдалае ў нумары. Незразумела толькі, чаму яно друкуецца пад рубрыкай «Хроніка». Дарэчы, гэтая акалічнасць, як і астатнія (напрыклад, размяшчэнне на адной старонцы некалькіх тэматычна розных матэрыялаў, невыразныя назвы рубрык, увага да падзей, якія наўрад ці з'яўляюцца сёння востра актуальнымі, іншыя сур'ёзныя пралікі), выразна сведчаць, што ў часопісе пакуль адчуваецца востры недахоп рукі прафесійнага і спрактыкаванага рэдактара. Так, ні з праграмнай заявы заснавальнікаў, ні з астатніх матэрыялаў нумара чытачы не даведаюцца: чым жа «Беларуская мінуўшчына» будзе прынцыпова адрозніваацца ад іншых гістарычных перыядычных выданняў — «Спадчыны» і «Беларускага гістарычнага часопіса»?

Дзесяць старонак нумара прысвечаны беларускаму замежжу: «Беларускі загранічны архіў» Ганны Сурмач, «Мы не пасынкі твае, Беларусь!» Казімімра Кануса (уражанні ад Першага схода беларусаў блізкага замежжа, які адбыўся ў леташнім снежні). Апошні матэрыял — пра падзею, аб якой ужо напісана шмат. Напярэдадні Першага з'езда беларусаў свету (часопіс падпісчыкі атрымалі ў чэрвені) ён, відаць, ужо мала каго зацікавіць. Самая лепшая публікацыя гістарычных дакументаў у нумары — успаміны Канстанціна Езавітава «Першы Усебеларускі Кангрэс», якую ажыццявілі У. Міхнюк і Я. Паўлаў паводле раней сакрэтных матэрыялаў з архіваў КДБ. Праўда, і тут не абышлося без прыкрых недаглядаў з боку рэдакцыі. Так, на стар. 24 чытаем, што Усебеларускі Кангрэс «адбыўся ў Мінску ў снежні 1918 г.». На самай жа справе гэта падзея, вызначальная ў справе аднаўлення нашай дзяржаўнасці, мела месца ў снежні 1917 г. Падобная блытаніна зусім не на карысць аўтарытэту гістарычнага часопіса (тым больш, што перад намі першы яго нумар), яна ўвогуле абсалютна недапушчальная!

Заслугоўвае ўвагі артыкул «Апостал свабоды і незалежнасці», у якім аўтар, дацэнт БДУ Вячаслаў Шалькевіч (летась, дарэчы, прызнаны Міжнародным біяграфічным цэнтрам у Кембрыджы Чалавекам года) спрабуе асэнсаваць выдатную асобу Канстанціна Каліноўскага ў якасці аднаго з творцаў ідэі беларускага нацыянальнага Адраджэння. Адзначым, што пасля знікнення ў нас палітычнай цэнзуры гэта даследаванне — першая грунтоўная навуковая праца ў рэспубліцы, дзе адкрыта падкрэслена, што «грамадска-палітычныя ідэі, сфармуляваныя Каліноўскім, валодалі беларускай нацыянальнай грамадскай думкай і нацыянальна-вызваленчым рухам на працягу ўсяго XIX стагоддзя і пачатку XX аж да ўтварэння БНР і Рэспублікі Беларусь. Пуцяводнай зоркай сталі яны для беларускага Адраджэння. У гэтым — палітычны геній Каліноўскага».

Тэматычная падборка часопіса «Святары і вернікі» (не лепшая, да слова, назва) прысвечана рэлігійнаму жыццю. Цэнтральнае месца тут займае гутарка з мітрапалітам Менскім і Слуцкім Філарэтам. Не станем закранаць змест, бо гутарка ўжо шырока друкавалася рэспубліканскімі сродкамі масавай інфармацыі. Адзначым толькі, што за асцярожнымі выказваннямі мітрапаліта раз-пораз праглядаецца пазіцыя, якая насцярожвае. Так, Філарэт лічыць, «што на тэрыторыі Савецкага Саюза Царква Праваслаўная — Царква-лідэр». Няўжо не ўсведамляе ўладыка, што былы СССР — не толькі Расія-матухна? Цяжка навэрыць: няўжо ён не ведае, што ў адпаведнасці з нашай усталяванай гістарычнай традыцыяй на Беларусі не можа быць ніякіх нават размоў аб лідэрстве нейкай адной рэлігійнай канфесіі? На афіцыйным узроўні тут сапраўды доўгі час панавала праваслаўная царква. Так было, нагадаем, пасля гвалтоўных падзеяў у Рэчы Паспалітай аж да 1917 года, калі праваслаўе з'яўлялася па сутнасці дзяржаўнай рэлігіяй. Але ж паводле веравызнання і ў складзе Расійскай імперыі жыхары Беларусі не належалі толькі да праваслаўя. Яны былі яшчэ і каталікамі, у тым ліку і грэка-каталікамі (уніятамі), пакуль у 1839 г. іх прымусова не ператварылі ў праваслаўных, былі іудзеямі, мусульманамі, пратэстантамі. З гутаркі таксама вынікае тое, што Беларускі Экзархат па-ранейшаму адмоўна ставіцца да аўтакефаліі, што ён, як і ўчора, практычна ігнаруе пытанне дзяржаўнай мовы ў праваслаўных храмах, але не супраць уводу, напрыклад, пасад палкавых святароў-нікаў у беларускім войску, святароў-нікаў, вядома ж, праваслаўных. А каб ніхто не падаў голасу супраць, грамадскасць тут жа запалохваецца небяспечнай перспектывай заходняй — каталіцкай і пратэстанцкай — экспансіі. Песні гэтыя, зрэшты, не новыя...

«Беларуская мінуўшчына» знаёміць чытачоў з Беларускай сацыял-дэмакратычнай грамадой (гісторыя стварэння на пачатку стагоддзя і сучасны стан партыі), закранае няпростыя, набалелыя пытанні вяртання на Бацькаўшчыну нашых гістарычных каштоўнасцей, друкуе каляндар памятных дат на сёлетні год. У нумары ёсць старонка гумару, маляўнічыя каляровыя ўклейкі.

Падсумоўваючы, скажам, што сярод трох беларускіх гістарычных часопісаў «Беларуская мінуўшчына» яўна прэтэндуе на лідэрства: значны аб'ём (звыш 10 аўтарскіх аркушаў), даволі вялікі па сённяшніх мерках наклад, прэстыжны і салідны фармат, прыгожая вокладка. А вось свайго твару выдатне, на жаль, яшчэ не мае. Гэта ж, дарэчы, можна цалкам аднесці таксама і да «Беларускага гістарычнага часопіса». «Беларускай мінуўшчыне» найперш не хапае дасведчанай, прафесійнай рукі, здольнай зрабіць часопіс такім, каб увесь ён чытаўся на адным дыханні, каб ад старонак было цяжка адарвацца. Выказваем надзею, што наступныя нумары часопіса акажуцца менавіта такімі.

**Мар'ян ВІЖ.**

# З песняй матчынай заручоныя

...З сонечнымі ўсмешкамі, з караваем на вышываным ручніку выходзяць яны да людзей. І быццам сама сабою ўзнікае, разліваецца і набірае сілу шырокая, вольная плынь песні, што гучыць магутна і разам з тым пранікнёна-спавядальна.

Нідзе няма крыніц званчэй!  
Я даказаць усім бяруся,  
Што не знайсці такіх вачэй,  
Як у матулі-Беларусі...  
Яны, як зоры, узышлі  
З маленства над маёй  
калыскай.  
Мне стала светла на  
зямлі,  
Мне стала неба самым  
блізкім.

І словы, і музыка кладуцца на душу, кранаюць яе запаветныя струны. Песня настройвае на адну хвалю тых, хто ў зале і на сцэне, робіць сябрамі яшчэ хвіліну назад незнаёмых людзей.

Яна — як візітная картка хору, выказніца яго творчых памкненняў: ісці ад крыніц бацькоўскай зямлі.

З глыбінь стагоддзяў бярэ выток і перадаецца з пакалення ў пакаленне на Случчыне спеўны і мастацкі дар творцаў з народа. Не даюць яму загінуць, жывяць сваім талентам захопленыя творчасцю і адданыя ёй людзі — удзельнікі шматлікіх самадзейных калектываў. І адзін з такіх — народны хор «Пачастунак».



Зусім нядаўна гэты цікавы самадзейны калектыў заваяваў званне народнага. І назва ў яго цікавая — «Пачастунак». Дык чым жа «частуе» аматараў роднай песні харавы гурт працаўнікоў Слуцкага мясакамбіната?

«Народны» — значыць такі, які дасягнуў высокага мастацкага ўзроўню і выканаўчай культуры, адметнага творчага аблічча. Народны — значыць актыўны ў канцэртнай дзейнасці і добра вядомы слухачам. Усё гэта ёсць у самабытнага калектыву. Але шлях да прызнання не быў — ды і не бывае — просты. Былі на ім за дзесятак з лішкам год і «камяні», і ўзлёты, і пэўны зацішак. З прыходам у калектыў кіраўніка Аляксандра Шыяна ў хору адкрылася другое дыханне. Пошук арыгінальных, незапетых іншымі фальклорных жамчужын і твораў сучасных беларускіх аўтараў, упартая работа над раскрыццём душы кожнага твора не маглі не захапіць спевакоў, не абудзіць іх творчы імпэт.

А з'яўленне ў калектыве таленавітага балетмайстра Міколы Котава ўзбагаціла выканаўчую палітру новымі фарбамі, расквеціла музычна-вакальныя ўзоры элементамі харэаграфіі, тэатралізацыі.

Цікава, што ў калектыве няма, як гэта бывае звычайна, падзелу на харавую і танцавальную групы. Усе ўдзельнікі — і спевакі, і танцоры, і гэта дае адметны мастацкі эфект. Самадзейныя артысты не проста выконваюць песню, а «пражываюць» яе на сцэне, уносяць яркую вобразнасць і абаяльную непасрэднасць у сваю выканаўчую манеру. У ёй спалучаюцца задумлівая лірыка і агнявістая віхурнасць, жартаўлівая ўсмешка і шчырая сардэчнасць. Узнаўляюць яны старадаўнюю песню «Цячэ рэчка з-пад мястэчка», карагодзяць пад вядомую «А ў полі вярба» ці заводзяць задзірыстыя, «з перцам» прыпеўкі,— усё кранае слухача, стварае карціну народнага жыцця.

— Гляджу — і самому хочацца заспяваць разам з імі,— выказаў сваё ўражанне ветэран вайны і працы, удзельнік самадзейнасці Іван Аляксандравіч Навараў падчас выступлення народнага хору са Слуцка ў рабочым клубе Менскага маторнага завода. Ды і ўся зала была як зачараваная...

Хто ж яны, артысты-чараўнікі? Звычайныя людзі розных спецыяльнасцей з агеньчыкам у душы. Адам Глушань — шафёр па прафесіі і вядучы саліст з характэрным амплуа «першага хлопца на дзярэўні». Са школьнай пары сябруе з творчасцю, якая, на яго думку, робіць святочным будзённае жыццё. Не можа ўявіць сябе без мастацтва і работніца прадпрыемства Наталля Дрэвіла. У яе сям'і таксама любяць песню, музыку. Начальнік аддзела Тамара Іванова, адна з пачынальнікаў хору, усцешана яго сённяшнім творчым абнаўленнем, тым, што ў калектыў ахвотна ідзе моладзь. Сярод маладых талентаў — рабочы кацельнай Міхась Барысевіч, майстар Уладзіслаў Сасноўскі, аператар Вера Заяц, іх сябры.

Старэйшына калектыву галоўны эканаміст камбіната Нэля Рыгораўна Каролік перажывае зараз разам з ім другую маладосць.

— Бывае, і замаркоцішся, і пад цяжарам клопатаў сагнешся. А песня расправіць і сілу верне. Мы з ёю заручоныя,— прызнаецца жанчына.

І расказвае, якую добрую ноту ўносіць іх спеўны гурт у атмасферу працоўнага калектыву, падымае настрой людзям. Таму і ствараюць тут умовы для самадзейных артыстаў, падтрымліваюць маральна і матэрыяльна. Дырэктар камбіната Канстанцін Антонавіч Пятровіч — гарачы прыхільнік і нязменны балельшчык хору. Не прапускаюць ніводзін канцэрт, ганарыцца артыстамі з народа. Вось і лунае, узвышаючы душу, спеўная паэзія роднай зямлі:

Бусел над ракой крылы  
распластаў,  
Гоман спелых траў у лугі  
пазваў.  
І звініць з касой рэхам  
у гаях  
Песня беларуская мая...

Святлана КЛІМЕНЦЕНКА.

НА ЗДЫМКУ: вакальная група хору «Пачастунак».

Фота Уладзіміра КАВАЛЬЧУКА.

---

*Георгій ЮРЧАНКА* *Пароды*

## У нетрах глыбіннасці

*Гэй, пачвары! Адзін я — у полі!*  
*Ну, смялей жа!*  
*Выходзьце!*  
Міхась Стрыгалёў.

Пэндзля ўзлёт (тугі і палымяны).  
Ву-ух савіны (гнеўна-трапяткі).  
Пад пяром (увішным і слухмяным)  
у трывузел вяжуцца радкі.

Цішу — знаеш? — зорнасці расстайнай  
пекане няўрымслівы агонь.  
Калі (Дзе?) пачую тайну тайнаў,  
прыкладу да вечнасці далонь.

Шчасце-ўцеху (Слухай!) як адрэжа  
мройліва распяты (Кімсьці) лёд.  
Помніцца: вярба на прыбярэжжы,  
а пасля — зусім наадварот.

Крыліць шлях (Куды?) нібы гаротнік.  
Вецер да сасны (Чаго?) прынік.  
Прэч, пачвары — жудасны балотнік  
і няўклюдна-шызы лесавік.

Сон Ярылу (гой-ясі!) турбуе.  
Прывіды ў жудзе начной скрыпяць...  
Часам я чытаць сябе спрабую.  
Дык да сэнсу — дзе там! — не дапяць!..

## Надзейны павадыр

*Яго чакалі травы лугавыя,*  
*Чакалі кветкі колераў любых.*  
*А перш за ўсё*  
*чмялікі маладыя*  
*Жадалі стрэч... Я разумею іх.*  
*Я чуў даўно, што недзе на Палессі*  
*Стаіць Цар-дуб у гушчары лясным.*  
Міхась Башлакоў.

Той пра шпакоў пяе, той пра ранеты,  
Заводзіць хтось пра пеўня, пра цяля.  
А я, высокай радасцю сагрэты,  
Выводжу гімн пра вернага чмяля.

У цішыні лугоў апець спяшаю  
Адзіны, непаўторна шчасны міг,  
Калі ён над каханкай завісае  
На крылцах серабрыста-залатых.

Ты зразумей замілаванасць, згоду,  
Яго адухаўлёны, ясны твар,  
Калі нясе чмялісе цэбрык мёду,  
Нібы адданы рыцар-валадар.

Я знаю, чмель не згубіцца у часе,  
У крыўду не папусціцца нідзе.  
Такі мудрэц у баявой акрасе  
Мяне і да Цар-дуба давядзе.

---

## ШТО ПАГЛЯДЗЕЦЬ ПА ТЭЛЕВІЗАРЫ?

**11 ЖНІЎНЯ, СЕРАДА**

18.30. Навіны Бі-бі-сі.  
21.00. Панарама.  
22.20. Творчае маладзёжнае аб'яднанне «Крок». Студэнты жартуюць.  
23.20. НІКа.

**12 ЖНІЎНЯ, ЧАЦВЕР**

9.40. «Пад бляскам кароны». Да 740-годдзя каранацыі ў Навагрудку вялікага князя літоўскага Міндоўга.  
18.30. Навіны Бі-бі-сі.  
19.45. Пазіцыя ўрада.  
21.00. Панарама.  
22.15. Творчае маладзёжнае аб'яднанне «Крок».  
23.00. НІКа.

**13 ЖНІЎНЯ, ПЯТНІЦА**

10.15. Сарказм трагізму. Творчы вечар А. Мрыя.  
11.00. Канцэрт для дэлегатаў І з'езда беларусаў свету.  
12.45. Пазіцыя ўрада.  
18.30. Навіны Бі-бі-сі.  
20.05. Палітычны калейдаскоп. Заканадаўчыя ініцыятывы БСДГ.  
21.00. Панарама.  
23.35. НІКа.

**14 ЖНІЎНЯ, СУБОТА**

18.30. Вобраз. Літаратурны часопіс.  
21.00. Панарама.  
23.30. НІКа.

**15 ЖНІЎНЯ, НЯДЗЕЛЯ**

12.00. В. Дунін-Марцінкевіч. «Залёты». Спектакль Беларускага дзяржаўнага акадэмічнага тэатра імя Якуба Коласа.  
13.45. Адраджэнне. Культурна-асветніцкая праграма.  
18.45. Год з жыцця «Песняроў».  
20.00. Панарама.

Заснавальнік: ТБМ імя Ф. Скарыны.

АДРАС РЭДАКЦЫІ:  
220005, г. Менск, вул. Румянцава, 13.  
Тэлефон: 33-17-83



Аўтары надрукаваных матэрыялаў адказваюць за дакладнасць фактаў і іншых звестак. Пункт гледжання аўтара можа не адпавядаць меркаванню рэдакцыі. Рукапісы рэдакцыя не рэцэнзуе і назад не вяртае.

Індэкс 63865. Зак. 283.

МВПА імя Якуба Коласа, Менская паліграфічная фабрыка «Чырвоная Зорка», 220079, г. Менск, 1-ы Загарадны завулак, 3.  
Індэкс 63865.

Наклад 7197 паасобнікаў.  
Падпісана ў друк 2.08.1993 г. у 15 гадзін.